УДК 821. 161. 3-1
ББК 84 (4 Бен)
Г 62

Голуб Ю.

162 Багра: вершы, паэма /Юрка Голуб. Мінск. Кнігазбор.
2006. -224с.
ISBN 985-6824-23-0

“ Багра “ – новая кніга паэзіі Юркі Голуба, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, згуртавала ў сабе творы, пакліканыя жыццём. Вершы абгрунтаваны пранізлівай думкай, насычаны адмысловай метафарай, выкананы выразным і дакладным радком майстра з адметным почыркам і светапоглядам.

Паэма “ Заснежаны сшытак “ апіраецца на лёсы і постаці суайчыннікаў аўтара, якія з`яўляюцца метчыкамі нашага шляху і носьбітамі людскасці.

УДК 821. 161. 3-1
ББК 84 (4 Бен)

Аўтар дзякуе
**Валянціна Дубатоўку**
за дапамогу ў выданні кнігі



ISBN 985-6824-23-0

# 1

## КУЗНЯ

Занядужаў брысці
снег па схіле з лагчыны,
і ў глыбокім трысці
след вятры залячылі.

Не караскаўся дым,
нерухомы, на ельнік,
закавала мяды:
з імі пчолы знямелі.

Ухапіла раку
за руку неманіна,
і наклаў на руку
лёд у помсце даніну.

Ды не выбіўся з сіл
у паветры здубелым
з чорнай кузні пасыл –
на чырвона і бела.

## ЗАЛЕЖНАСЦЬ

Уласным прымхам наўздагон
сябе, як кнігу, перагорнеш,
пляскаты камень – там адхон,
вунь дуб грудасты – там пагорак.

Не знік у посвісце антэн
званок сярэбраны ад вішні,
няма вышэй ад родных сцен –
вышэй ад іх – адно Ўсявышні.

Згараў ад солі капялюш,
і лоб, як груд, рыпеў расою:
дзяцюк не скнарыў, што нядуж
сусвет пад жыта перасоўваць.

У пене злой гасцінец хроп:
казалі, кара спасцігала

таго, хто сеў на нечый горб,
каб толькі вылезці на гала.

За баграй полымных забаў
не збур`янеў радок вятрысты:
з дзікунскім бляскам на зубах
над ім жа скаліўся антыхрыст.

А рэчка з жоўтым спадаком
круціла ўсё ж вясёлкі колы,
і неслі нехрысту дакор
святыя Юр`я і Мікола.

А супраць сонца аддалёк –
атрос і коскі, і абноскі –
жывы-здаровы матылёк,
захоплены павевам боскім.

**ПРЫ ЖЫЦЦІ**

Пакуль драмаў здалёк абшар,
дарога лісце зацкавала,
завея з прагай барыша
адхон снягоў напіцавала.

Замерзлі вербы след у след,
завіслі ўтомленыя высі,
і сам, братове, як аслеп,
пакуль для жыткі штольню высек.

Не намагацца раіў слаб
і не спяшацца радзіў хуткі,
а ты здзіраў пазногці з лап
і шыю рызманом захутваў.

Ды ведаў, чым жывы ціхмян,
і для чаго гарлае зычны,
чаму каня загнаў цыган,
а конь – чужы ў яго зазвычай.

Намераў спраўлены палац,
і брама перад ім – наросхрыст:
там мелі вокны запалаць,
але канае свечкі ростань.

З рудых ад высушкі дарог

адна стрыножыла да сэрца,
каб нават там яе збярог,
дзе пыл праз горла не дзярэцца.

І лёсу ўласнага драбком
за волава цяжэй у жмені
ты не заменішся крадком,
бо непадлеглы ён замене.

## ЗАЗВЫЧАЙ

Ракі рашучы бранзалет
абняў аблогу за запясце
і здолеў там не назалець,
і ў вока прагнае запасці.

Адсюль употайкі на днях
пры бліскавіцы на адхоне
няўдала жулікі са дна
цягнулі скарб Напалеона.

А пры зацьменні на бугор
/ старыя часта ўпаміналі /
палезла цемра з берагоў:
такой не зналі за панамі.

Жахлівей нават сказ узнік:
як везлі крыгі ў карагодзе
зламаны звон – яго язык
быў закаваны ў жорсткім лёдзе.

Яшчэ раней з завей Ражства,
з вакон Вялікадня – дакладна –
тут дуб легендай абрастаў,
абмеру хмар непадуладны.

А памянёны бранзалет
няздарны смерд ссушыў у скрыпку:
ягоны ў доле плюнуў дзед –
ляжаць з такімі побач прыкра.

## БЕЖАНЕЦ

Балот абшарпаны хадок,
на іх жа ўдосталь дастаяцца

цягнуўся шыяю худой
над скрутам станцый і дыстанцый.

Без каляндарнага чысла
паводка цешылася з балю,
і вецер храпу пачасаў
аб крыгі чорны аскабалак.

Дзе хроп будынкаў гаспадар,
а Нёман брагу парасхлістваў,
вяртанец крону пагайдаў:
ці дуб, як шула, непахісны!

Цямнела далеч. Толькі кроў
душу гукала да прычасця –
вось так гудзе ў цясніне роў,
калі на вольніцу пашчасціць.

Туман наранку чаду даў:
шкаляр каўтаў яго, бы сліну,
і горка, мусіць, шкадаваў,
што празяваў прылёт бусліны.

## ПА НЁМАНЕ

І далеч дым распеconverted разаў,
і вецер рухам немінучым
за плечы кінуў, як рукзак,
гняздо замглёнае на кручы.

Нібы ў сутычцы з бервяном,
неспадзявана дрогнуў бакен,
а захад хусткай барвяной
абшару шыю абвалакваў.

Марудны востраў збоку знік,
спакуса ў сеці наплывала,
а вадзянік павёў адлік,
каго скапа не ўпалявала.

На ланцугу трымала борт
скаба няўклюднага парома,
адтуль, дзе згас у сховах бор,
маланка вока распарола.

Ступалі прыцемкі на глей,
як здані гіблага атрада:

іх час бушлатам не нагрэў
і голас даць не мае рады.

Пакуль за Гожай свет заднеў,
і зоркі сцерліся, бы семя,
блішчэлі ў Нёмана на дне
ключы балтыйскага басейна.

**ВАНДРОЎНІК**

І лёс дарога спаткала.
І далечы клічуць кроў.
Здалёку паўстаў Купала:
Няшпаркі Купалаў крок.

На памяць радкі населі.
Кіёк завіла смуга.
Вандроўнік прысеў на сена,
Бо праўды няма ў нагах.

Наводдаль –
дзе гай забавы,
Адбеглася ў ноч раса,
Каб з папараці неўзабаве
Вогнішча выкрасаць.

У папараці і любові
Аднакі ўзыход і род:
Адданы яны любому,
Хто не ідзе на звод.

У моладзі рай пад бокам.
/ Мінае няздара рай./
Сплывуць у нябыт аблокі –
Вянкі разгайдаюць край.

…У одуме падарожным
На посах апёрся свет.
Дыхае асцярожна
Купалка, як амулет.

Купалле іскрыцца золкам:
На вернасць дае зарок.
За зоркаю сочыць зёлка.
Купала.
Айчына.
Зрок.

## ПРА ЗАПАВЕТ

Раптам знік запавет…
Нечакана. Абшарна.
Так знікае павець
У парадку пажарным.

Хоць на хоры залазь
Сам абдзёрты шыпамі.
Крыж у бездані зла
Богша больш не шукае.

На касцёльны спічак
І царкоўную голаў
Праглі гон распачаць:
Звон цяперака гояць?

Менш дзяцей-куранят:
З імі млосна вадзіцца.
У пустых каранях
Грук спыніла вадзіца.

У дубцах і капцах
Шару жытняму шара.
Нібы футры ў купца,
Сленг паблытаны з шармам.

Анямеў – не грыміць
Цьмяны горн піянера.
Жэня,
снежных грамніц
Стыне след на паперы.

Турнікетны заслон
Не чытае адозвы:
Недарэкам на зло
Ён навучаны досыць.

З ніцавокім канём
Ратнік стаў незваротным?
Адляцеў, як анёл –
Толькі цень на варотах.

Доўжыць, бач, пералік –
Не пазычыш імпэту.

Дым апаў на раллі,
Як уздых запавету.

## НА АЙЧЫНЕ

*Валянціну Дубатоўку*

Маланак спрахлых рызманы
абвіслі на шкілеце дуба:
ім не ўдалося размяніць
яго бяссмерце на загубу.

Ён зашчаміў праклён нябёс
нажніцамі такога кшталту,
што скалануліся б нябось
ілбішчы  “ скайлэбаў “ і “шатлаў”.

І глуха на курган прысеў,
але ж уздымецца спружынна:
яму бусліха пакрысе
бінтуе поначы чупрыну.

## СЛОНІМСКІ АПОКРЫФ

Здубелы ў дзёгці і саломе,
дзе сверб пад`юджвала карчма,
ляйчыну Шчары тузаў Слонім
і шлях скаромны скарачаў.

Рудая масць мясіла плешы,
драпежнік пер`е драў з нябёс
і д`ябал попел з галавешкі
Ружанскай пушчы ў вока трос.

Французам, збэшчаным, салёна
піхаць гармату ў кроў і роў:
ляцелі конныя праз Слонім
і пеша пхнуліся дамоў.

Хапала одум за бароды
галота, прагная да меж,
як здань, скалечаным барока
палац апёрся на капеж.

І праваслаўны, і католік,
заўчасна зніклы вуніят

на смык не мелі каніфолі,
дык ім не Слонім вінават.

Распорваў краю перавясла
з пляскатым бляскам жорсткі штык,
а лес з рукой на перавязі
засеў з чыгункай упрытык.

Не дацца вынішчыць пад корань –
зарокам бляшыў зрок і ўрок,
ламалі парту бездакорна,
а парта ўпартая знарок.

З адчаем зайздрасць спалучалі
і пешадрал, і генерал,
калі над Прагай сланімчанін
Францыска след ганараваў.

Схуднелі ў пошуку сыноўнім
і архізнаўца, і шкаляр:
не могуць Слоніму сінонім
знайсці праз боскі акуляр.

## ЧАС ТАЎЛАЯ

Між бярозаў пабляклі
Далягляду зазоры.
Адпаведна сабакам
Моўчкі чуюцца зоры.

Скарыстала агулам
Вёска лямпу дашчэнту.
Не бяскрыўдныя гулі
Крышаць слову пашчэнкі.

Высякаюць абзацы,
Як гаёўку, пад корань.
Для дарадцы і здрайцы
Спосаб той бездакорны.

Страх хавае агіду
За аглядкі каўнерык.
Распластана агітка
Пад падэшвай жаўнераў.

Шлях – хаўрусны з нагамі.

Стыць – не згодныя пальцы.
Свечкай сцяг замільгае
І ўзлятае над пляцам.

Снег – з крывёю цукрысты.
Пыл без хлеба – цягучы.
Лапа гадаў урвіста
Сцяг парве на анучы.

Слова ў свеце адрозным
Крыжаванае ў росце
Ля прыцьмелай бярозы
У празрыстай бяросце.

**ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ТЭМА: ПАЭТ**

Пяцярнёй здзервянеў,
Неачэсаны ў профіль
На радкоў дзірване,
На няўдобіцы строфаў.

Пры газніцы засоп,
Не прыкмечаны ў храме,
Сам, напэўна, засох,
Калі б высах атрамант.

Латку выдраў з папер
І натруджана клычыў,
І ў адказ на давер:
Гэй! – аказваўся клічнік.

Заклінаючы край
Саматужна і скрушна,
Стаў ён лёсу на край,
Як над скрухаю крушня.

Зяблі літар рады.
Крыжавіна крактала,
Дзе пагорак руды,
А дарога крутая.

Не такія пісцы
Недзе парылі косці:
Асалода пасціць,
Дзе не косяць, а косцяць.

У маёнтку нягод,
У мястэчку пагарды
Вочы вёў не на спод,
Зрок узносіў упарта.

Неўзабаве займеў
З новай назвай шарварак
І шкаду, што ўзамен
Звёў душу на агарак.

## БЕЛАРУСКАЯ ГЛІНА

Сок да неба ў сто жыл
Цягнуць з гліны галіны.
Сад, як фенікс, ажыў
Над далінай на гліне.

Каб здалёк не застаў
Холад зблізку магільны,
Браць у прыгаршчы сталь
Ласку выдалі гліне.

Недалёка райфа
Восень дрэвы галіла:
Лісцю – сну саркафаг
Забяспечвала гліна.

Бач, вунь вісус застыў,
Як салдат перад гімнам:
Ставіць стыль не кастыль –
А абцасік на гліну.

Чым падобны савет
На суседнюю гміну?
Дык на тысячу лет
Ёсць надзея на гліну!

З гліны месяца збан
У крыніцы не згіне.
Божа мілы, пазбаў
Ад забавы на гліне!

## ПАВОДЛЕ "ДЗЯРЭЧЫНСКАГА ДЫЯРЫЮША"

Світае дрымотны касцёл.

А потым з паганае трэскі
У ім запалае касцёр:
Святла не хапала для фрэсак?

З Ружанскае пушчы, як дым,
Пацягнецца стомлены голас.
Яго не пытайся: куды? –
Паголена голаў нагола!

Разваліцца снежня капыл.
Разломіць суставы крыніца.
У Зэльве кабылу купіць
Жадаў не адзін на дурніцу.

У жарсці зладзейскай цыган –
Вусатая з воспаю морда –
Яе за вуздэчку цягаў
Ажно за Хвалынскае мора.

Жалеза ў нутро зарабіць
Драпежны аскал не ахвочы.
Ганчак задыхнуўся рабы
Над пусткай у логаве воўчым.

Забыўся ў наймічкі шляхцюк,
Як шапку, сцярушаны гонар,
Надарыцца тое шаўцу –
Намёку не мела б на гора.

Сумненняў, як грошай, няма.
Намераў пад Месяцам – безліч.
Спакусна пантофлік здымаць
У схове пякучага бэзу.

Быў повен паводкаю роў.
Атрута пакінула блёкат.
Пад згоду біблейскіх кароў
Дачытвае хлопчык аблокі.

Няўжо ён з радком заляціць
І ў браму апосталаў шахне?
Во-во, шалясціць залатнік
У жолабе Млечнага шляху.

**ВЕРНІК ВАНДРОЎНЫ**

Зганьбілі лёс мімаходзь.

/ І тое абралі за подзвіг./
Цяпер у яго не заходзь:
Адны галавешкі на сподзе.

І знеслі аглядак курган.
Узнеслі разбройную браму.
Знявагі крутая карга
Легенду ў абслугу забрала.

Кідаецца верай сляпы.
/ Загортвалі немач у веру!/
Надзеі стракозка ліпіць
На вузкай  планеце аеру.

Да Бога – дарога з дарог.
Па ёй пры самоце збірацца.
Не складваюць жытку з дароў,
Не свенчаных беражна Збаўцам.

Сядзеў у касцёле. Імша.
Царква. Пастаяў на малебне.
Зайздросны царкоўным мышам
Касцёла засевак вялебны?

Вандроўка да неба. За кошт
Нябыту, спадзеву на літасць?
Там споведзі меднае коўш
На поўнае вока наліты.

**ВОКЛІЧ**

Па свеце пайшла шапта:
“ Пакрыўдзілі вокліч: – Ма-ма!”
Хлапчук
і вясна,
і птах
Пакрыўдзіліся таксама.

Занесла аднекуль брыду?
Нашто ачарсцвелы скнара –
Дажджынка на бараду
Выпала з-пад акуляраў.

Уздрыгнуў над ганкам ліст,
А ён не адзін – гаротнік:
Урвісцей за ўсіх таксіст

Не ўпішацца ў паваротку.

На сходы ступіў канвой,
Сувора-суровы самы:
Пад вартай яго з кляймом
Не той, хто адпрэчыў маму?

Зусім недалёка гай
З дупла натапырыў вуха:
Нібы галасам згараць,
Бярозам счарнець на вугаль.

Заглянь у нябыту штат,
Там змоўк ад задышкі лямант,
Паслухай, аб кім шаптаў
Пры смерці апошні мамант.

А сцежка вядзе ў абвод
Залашчаных вокам вокнаў.
...Дзе змешчаны радавод,
"Ма-ма..." – блукае вокліч...

## ВАКОЛІЦА

Здалёку воку бусел люб,
і не зацюканы навечна,
задраў угору ўласны дзюб –
абшарнай вежы наканечнік.

Як на распешчаны дыван,
раса апала ў канюшыну,
і пёс узнёсла аддаваў
падзяку лёсу за ашыйнік.

А певень гнеў не астудзіў
за адхіленне ад палётаў
і гневу, пэўна, не наздзіў
ён волле вываліў над плотам.

Без блытаніны ў адрасах
і напамінку абавязкаў
рубель кішэні вытрасаў,
а ранак выпіўку завязваў.

Нібы з глыбіняў, загула –
краіна дыхала на тракце,

дымок падаўся ад стала,
і даўся справе рохлы трактар.

Ці дуб апірышча не меў:
стаяў з трухлявай крыўдай збоку? –
была яна сабе наўме
і ў той жа час – навідавоку.

## СПРОБА БАЛАДЫ ПРА АБАРВАНЫ ДРОТ

Правады прывялі
На адцінак зыходны.
Хутар, бы равелін,
На пачатку заходнім.

Дрот на слупе правіс,
Як пытальнік над скрутам.
На разлегласць правы
Ад яго не пачуты.

Недзе вецер курэў
Над брылямі пагоркаў.
Несла вестку ў кар`ер:
Вестак хопіць па горла.

У павучым ярме
Адзічэла ажына.
Дотык дзіду кране –
Пырсне дзіда спружынай.

З бронзы выліты бор –
Непадлеглы заганам.
Не ўзнясецца тапор
Боскім духам з кургана.

Сотню год адлічы.
Зрок спыні на зарубках.
Жар ікон і лучын
Схопіць прагна за рукі.

Шыбу туліць шчака.
Ціш – як студня пустая.
Нехта ж пэўны шукаць
Зніклы голас паўстання.

Свет у тайне заграз,

Дротам ржавым замкнёны,
Пробы гэткай якраз,
Што вышэй памянёны.

## БАБРОВАЯ БАЛАДА

Зайздроснаму лёсу бабра
Не рада вакольная рада.
І лёс праз ламачча загрaды
Не мкнецца ў кірунку дабра.

Не цягне замова да дна
Бабровы харомы на тонях:
Няўжо для закона Ньютона
У тым неабходнасць відна?

Блішчастыя футры бабра
Пагладжвае пошапт хвалебны.
Стаялі бабры на малебнах,
Бо страх іх за карак пабраў.

Бабрамі прытоплены край
У ценю цягучых Бярэзін.
Забойцу з крывавым абрэзам
Грахі не пускаюць у рай.

Глядзіцца ў затоку бабёр –
Усцешана вока апраткай.
Трымае бабровы парадкі
Трывала збуцвелы затор.

І хіліцца ў роспачы ствол
Пад гострай сякерай бабровай.
Запруда дыміцца, як бровар,
Або запаскуджаны стол.

Пратрубяць раптоўна на збор
Харалы царкоўнага Роўды.
І зноў зарыдае бабёр,
Лічы – лесаруб радаводу.

## БАЛАДА САДУ

На хрыбетніку частаколу
Сад завіс, на плады не гож.

Аб яго разбіваецца дождж:
Як у шыбу, ляцеў саколе.

І балючы крыл рыкашэт
Прыгінае да долу травы.
І схіліў галаву направа
Адламанай галіны шэпт.

Абдымаю жыццё. А сад
Адыходзіць, навек жагнаны.
Забірае мае заганы,
Пакідае ўзамен пасад.

**НАЕЗД ДА КРОМАНІ**

Змяркала. Вяшчуючы збор,
Паўмесяц вашчыну адкроіў.
Зусім не дэкор, а дакор
Закрэсліла Кромань.

І шары нябыт не шалеў
У шкельцах бінокля.
На Кромань накінуў шынель
Туман Налібока.

І загваздкай дуба – насмерць –
Заклініла рух паднябесны:
Каўша сухажыльны асвер
Не рыпаў балесна.

Няўклюда струну шкуматаў,
А тая цярпела.
Вось так і зямля на кітах
Замучыла цела.

У выхілках полымя – глянь –
Спакуса знікала.
І хвалі нягучнае здань
Запала за камень.

На вежы адбеглых легенд
Басяк не галёкаў.
Паклаў незаплюшчаны ген
Далонь пад галоўку.

Загорнуты сну лемантар

/ Хоць бухай з гарматы! /
Паміж кнігазбораў лятаў,
Ну, рыхтык, граматык.

Абвестка пытала пасля
У спосаб каронны:
Навошта пісак пасылаць
Без сэнсу на Кромань?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На седале сонцу пякло.
Круціла пясчугу на лядах.
І падаў на зломе паклон
Пад колы балады.

**ПОБАЧ З ЗЭЛЬВЕНСКІМ ВАДАСХОВІШЧАМ**

Аднаждачыла душу
Не карчомка – завея:
Вуха колер задушны
Падлягае замене.

На вадохрышча ладзяць
Вадасховішчу одум
З-пад Бародзіч Уладзя,
З Караліна Мікодым.

Нечакана / ды следам! /
Паварочвае дышла
/ Мусібыць, не паснедаў? / –
Побач мосціцца прышлы.

Не бывае суседства
Не зайздросным на лёдзе!
/ Потым жончына следства
Трапна выйдзе на подзвіг! /

Тут Зальвянку-крыніцу
Прыхавалі ў затоку.
Не схапіў за спадніцу,
А схапіў бы – без толку.

Вось пайду і спытаю:
Дзе крыніцы прыстанак,
І чаму капытамі

Тут не грукае ранак?

Бабка супраць: “ Май розум!
І куды ты, дзіцятка!
Скочыў ціск у марозу
Ад нуля да трыццаткі!”

## СВЯТАЯ ВЯСНА

Агучаная раўчуком,
Асвечаная пралескай,
Хоць закрычы крычом,
Праз пальцы трава пралезла.

Не валіцца немач з рук.
Збыліся да мора крыгі,
Як быдла знямоглы рух
На згадалы выган.

Навобмацак загрузіць
Прагне сябе карэнне.
І алебастр гразі
У жмені дзятвы карэе.

Птаства, ралля і дым,
Дзякаваць Пану Богу,
Свячаць усе ў адным –
Сёлета грымне бохан.

Задзёртаю галавой
З небам шукаю повязь.
Над Сынкавіцкаю царквой
Бусел ляціць на споведзь.

## БІЁЛАГ

Зашмаргнуў гарманіст
Горла музыкі ў спратах.
Вобзем падае ліст.
Ці падхопіцца раптам?

Аб`яднаўся сур`ёз.
Раз`ядналіся Штаты.
Лесу значыцца лёс
У разгневаных шатах.

І саванна – як лёх.
Духаты эскапады.
Леў, як цэзій, не здох,
Бо уцякаў ад распаду.

І ў радзімых жытах
Не ўсявышняе ласкі –
Пі-іць…. – запросіцца птах
Праз закрэслены ляскат.

Час, манцёр і хіцёр,
Занадзееныя Богам.
Глянь –
калені працёр
Над лісцінкай біёлаг.

## МЯСТЭЧКА

Мястэчка з вежай і ракой
і днём, і ў ноч пад млечным сховам
трымае грады пад рукой,
хаця й глыбей капаць гатова.

На месцы збору для прамоў,
што мае контур абавязку,
да ніткі кветнічак прамок,
дзе лозунг, шчыры пад завязку.

За шыбай – а не ў сейме мод –
жанчыны постаць не ў кужэльны,
глядзі, намёк на нацюрморт:
плады на вокнах пацяжэлі.

Не змеркне, шыльдаю руды,
аўтарытэт бяспрэчнай крамы,
дзе для бяссмерця эрудыт
нанюхаў велічы атрамант.

Незаспакоены, аднак,
і вертыкальшчык, як пажарнік:
паверце, яўная з адзнак,
што варты тут якраз не жалю.

Ды толькі вежа ад шкады
па-над абшарам спахмурнела:

увысь глядзелі гарады –
яна ж углыб закаранела.

Не здзейсніш Богава – сплючы,
пляцак задум упрэеш несці,
бадай, не скажуць, дзе спачыў,
жывы ў нашчадку першы месціч.

Нашчадак кроплю зажуе,
праводзіць воблака на кручу,
а тое значыць: ён жыве
і стрэне Бога немінуча.

## КАЛІСЬЦІ

Згарэлі будынкі датла,
А полымя ўдалеч аднесла.
Дзе згорблены морак ды тля,
Закорпаўся ў попеле неслух.

Здабыў акурат не карат,
/ Дазнанец забыў на вячэру /
А кулю, што мела караць
Аколышна-вогненны чэрап.

Чаромхай астуджаны чад.
Пчалу па-над ёю матляла…
І зрэнкі прыплюшчвае час
Над сплюшчана-цьмяным металам.

## НЕПАХІСНА

Прыціскала сургуч
Пошта з крэктам спачатку.
Ці не з Зеўсавых круч
Хукаў гром на пячатку!

Люд ля храма рыдаў:
Расцягалі па частках.
Горла драла брыда –
Зацвярджала пячатка.

Як прамоклы скавыш,
Талент мэнчыў пальчатку.
Глуха гакала звыш,

Як крашчэнда, пячатка.

Нават лёгкі лубок
З некуслівым канчаткам
Пры нагодзе любой
Касавала пячатка.

Ад анёлаў Цэка
У будынку спічастым
Страх дадому ўцякаў –
Даганяла пячатка.

Здзек апёк галуном,
Не раўнуй, як пячайка.
Звацца, бач, ілгуном
Дазваляла пячатка.

Грэх з абліччам чарта,
Аскаромлены постам,
Вырак зверху чытаў
Гучна акі апостал.

“ Божы раб...” і г.д.
/ Што ні слова – свінчатка./
“ Пекла ў нас – за гатэль!”
Подпіс. Пячатка.

## ЗНАКІ

Прыгнечаны след на гары
Апёрся на одуму посах.
І месяца ўткнуўся апостраф
У сшытак нябёс дагары.

Пісакам і крэйдзе кар`ер
Даверыў пляцоўку для літар.
Патрэбна, няйначай, з паўлітрам
Іх “ дзяку “ чытаць за давер.

Двухкоссяў суровых рыззё
Ці згрэбла на сметніку яма?
Газетнага клічніка лямант
Разбіўся аб рэха разор?

Вунь азбуку зубрыць актыў.
Каса распісала закоскі.

Пакліча бязродную коску
З сабой магістраль перспектыў?

Ды ў правапіс хрэсных дарог
Занесла адбітак падкова.
І нават нябыт канчаткова
Не знішчыць яго, далібог!

### СКУЛЬПТУРА

Варочаў змроку валуны:
хрумсцеў хрыбетнік, як штакетнік,
і ад вайны, і да вайны
быў перапынак непрыкметным.

Хадзіў у белым на пакос
і кучаравым на Вялікдзень,
ласкава клікалі: кось-кось…
а запрагаў надоўга злыдзень.

І ў таямніцы на вачах
стаяў знявечаны над пляцам
і моўчкі сэрца прывучаў:
смяяцца ў горы, з шчасця плакаць.

Ды рэдка хто здзяйсняў намер –
упасці з купіны да неба,
апостал Пётра каб знямеў,
і згаслі свечкі на малебне.

Пад шорсткім ценем крумкача
ён ашчаперыў лоб не медны,
нібы схапіўся за рычаг,
што ўпарта сніўся Архімеду.

### ЗІМОВЫ ГАЙ

Дарэмна гай на нотны стан
паклаў лістоў уласных кроплі,
а сам іх слухаць перастаў
і стаў маўклівым, як некропаль.

Пяшчота ўпала на граніт,

і заржавеў нябёсам выклік,
нязгодны з цішай арганіст
панік, зашпілены нязвыкла.

І змізарнеў на доле лад,
і птах у небе не купаўся,
і стала ў свеце больш балад
пад шэпт падоўжаны: па-кай-ся…

І гай – падобны на манеж:
там бубняць мёрзлыя ў законе,
а ён не грае на мане,
таму зашклёны, як замкнёны.

## БЯДА

Побач шлях не галёкаў.
Знікла вестка благая.
Стаў маўчун ля аблокаў,
А дудар каля гаю.

Ноччу скралі паэтчын
Голас: нібы каралі.
Думка спала на печы:
З печы думку не скралі.

Сон паэтчын гуляе,
Дзе прастора нямая.
Печка думку люляе,
Калыханкі не мае…

## ДУДКА-САГА

Хавалі дудак запаветы
І дол засыпалі мадэрнам.
Лятаў бясшумна, нібы дэман,
Кажан лягчэйшы за паветра.

І стала скрушнаю чаромха
Над краем,
выракам
і жвірам.
Уласнай дудачкай жывіла
Здаўна сяўца і скамароха.

Сканалі гукі дабравесця.
Запала ў ветах акарына.
Яе прастору пакарыла
Шумоў нашэсце.

## КАСЦЁР У ІНТЭР`ЕРЫ

Гарлапан у рыззі,
Адурманены сленгам.
А з гразі ды ў князі
Скочыць – ведама – нельга.

Без`языкі ў шаўках
Захлынаецца матам.
Бач, не змог адшукаць:
Хто яму вінаваты.

Злёг узрушаны звер.
Тне касцёрчык гаёвы.
Побач з ім піянер…
Ён на подзвіг гатовы!

## ГАРНІЗОН

А трубы ў бляску ўрэжуць марш,
На ўсцешным пляцы не забыты.
І дзед, акладзісты, як Марс,
Асочыць рэха ўласнай бітвы.

Пазводзіць з розуму “ ура!”
Паненак безпадстаўна пекных.
Адкуль ім ведаць: шлях у рай
Падрыхтаваў ахвяры пеклу.

… Дзе беразняк здалёк высок,
Каністры точыць сок да дзіраў.
Ды не ўскалыша, мабыць, сок
У штабе смагу камандзіраў.

Шпакі адмочваюць раты:
Жылося блага ў забароне.
Салдацік скобліць упрытык
Да свята стыкі на бетоне.

## З НЕДАЛЁКАГА

Замінαлі знарок.
Па судах зацягалі.
Каб прымеў, дык зароў,
Як мядзведзь за цыганам.

Адлучылі ад вех.
Прысабачылі здраду.
Здзек зірнуў – і павек
Стала цёмна адразу.

Не рамонак – а час
Лічыць веры пялёсткі.
Ён не злічыць адчай
За калёсамі лёсу?

Занядужылі пець
Карані і кларнеты.
Рваў з іх музыку спец,
Як карсеты з крыветак.

На паддашку нябёс
Захліпаўся дарэмна.
Пець імкнуцца найбольш
Там, дзе вельмі турэмна.

## ШКАДА

На кроне, корані, пероне
пад шэпт сцябліны і нябёс
дзялілі поўніцу пароўну
і дні не мчаліся на знос.

З адбіткам рызыкі на стужцы
у кіназале цнотных дзён
відзён берэцік на макушцы,
экран згубіўся – не відзён.

На паваротцы не забытай
здалёк абдыме васілёк:
прымаў і ён калісь іспыты
у нас на сум і весялосць.

Заглушкі цесныя для гаю
дарма знявера рыхтаваў:

кларнеты йгралі – дык заграйма,
бо ратаваць – не дратаваць.

Ды толькі тайна на фуршэце
зірне журліва праз бакал:
яе прышэсце, як нашэсце,
адтуль, дзе гінуць за метал.

## АСТРАПРАГНОЗ

Наўрад ці войны сверб спатоляць…
Замірзанее рух за мір.
А мір знутры – дык палітолаг,
А звонку мір – як сувенір.

Разбой хапае не за палец:
За горла хоп – а там нябыт.
Знутры ён – страху пастаялец,
А звонку – з ім жа барацьбіт.

Калі падыме драма вэрхал,
Пасмеюць праўду затрымаць,
Раскоша зноўку будзе зверху,
А знізу – з немаччу турма.

А свет, законамі замкнёны,
Зірне зняверана з акон,
Як злазяць вершнікі з іконы
Адбіць паклоны на закон.

## РОСПАЧ

Легенду згубіў атаман.
Згібелі палацы.
А згубу нябыт атрымаў,
І памяць палацьме.

Заплечных даробкаў мастак
Карэнне ахайваў.
Не ржэ заржавелы мустанг
З гаючага гаю.

Той літару кінуў на змор
І раю патрафіў.
Цяперака бронзай замёр

У плесні метафар.

Захутаны ельнік у жаль
З часоў шарачковых:
Яго апалохаў кінжал…
Згрымелі падковы.

Смакуе ліхвяр з пірагоў:
Ад пуза прыгрэўся.
І страціў надзею прыгон
У лічбах прагрэсу.

Дагледжаны свет, бы турма,
Вякамі з ваўкамі.
І попел у шчопцях трымай,
Як стораж вулкана.

На помач заве залатар
З падземнага спрату.
Няўжо і ягоны ліхтар
Судзілі на страту?

**САГА АЎТАСТАЯНКІ**

На захмарнай стаянцы
Гром багажнікам бразнуў.
Кропель доўжыцца танец,
Як раман падрабязны.

Задрамаў аўта-табар
З ліхтаром-аднаверцам.
А з замкнёнага скарбу
Гвалтам хабар не здзерці.

Дзе туман варушыла
Асцярогі машына,
Гострыць тонкае шыла
Позні вечар на шыну.

Рве жада крымінала
Цьмяны ключ з-пад падшэўкі.
Так сасуд каранарны
Рвецца ўноч неўспадзеўкі.

Нібы ножыкам вострым,

Вецер скулы разрэзаў:
На задыханых вёрстах
Экіпажы рэзерва.

Непазбежнай сутычкі
Шал распіша папера.
Ніцых сказ не датычыць:
Безадкладна – наперад!

Шыр маланка шчапае,
Багну звэдзгалі танкі.
Іх зусім не чапае
Роспач аўтастаянкі…

## НЯХІТРЫ ВЕРШЫК ПРА ПАВУЧКА І ЗАБАРОНУ

Павучку – забарона.
/ Каб не цешыўся гад./
І здзяйсняе варона
Пракурорскі нагляд.

Павучок з запытаннем.
Задакораны лоб:
Вы з маё паспыталі б,
Ці да смаку было б?

Не часы – заікацца,
І варона ў адказ:
Невялікая цаца –
Твой узор, багамаз.

Падлягае й варона
Пад рашучы загад:
Глянь, узор забаронны –
Зноў на ўвесь далягляд…

## НА АДЫХОД ГРОМУ

Праклёнаў процьму ён пранёс:
Жадалі зграяй наваліцца!
Нашчадак роду Перуноў
І гадаванец навальніцы.

Каго звядзе пасля саха,

І хто паспее ў чарнаморцы,
Сабе за пазуху сухар
/ Яму!/ хавалі пры каморцы.

Жанкам нагадваў у сярпе
І паням з места пра бялізну:
Маўляў, хавайце, бо няўсцерп
Дажджу з ягоным глабалізмам!

Калі да хмары лез метал,
Прычым нахабна, як татарын,
Дык гром не сцежкі замятаў,
А жахнуў гэнаму па твары!

Ён быў разгублены ўдвая:
Калі спакой нябёс пакратаў
Калгасным сола бугая
Яго нікчэмны імітатар.

“ Не вырвеш сволачы язык –
Свярбіць заразе год ад году!”
І гром гатовы скласці зык,
І пагатоў да адыходу.

Маланкам моўчкі касаваць
І небасхілу ў вечка біцца:
Раўні не мае адпяваць,
А небасхіл – яго грабніца.

## НАВІДАВОКУ

Навідавоку пры жыцці
Са згодным днём, салоўкам ноччу
Ты не хацеў адзін брысці,
Цяпер, тым болей – не ахвочы.

Угору ўзносіў юны шал.
Уніз абачлівасць скідала.
Ты слова нёс, а цемрашал
Жадаў скандалу – ды няўдала.

Ты рунь загортваў у сувой
І пазначаў аблокі, метчык.
Зайздроснік побач, сам не свой,
Гарляк сабе амаль скалечыў.

На шалях з`езджаных дарог
Цябе спакуса не гайдала.
На іх гайдаўся скамарох,
І з роту полымя шугала.

Сціскаў надзею за аброць,
Як генны Рымша на начлезе.
Зуброў – канай – не забароць
На гербе, камені, жалезе.

З любові,
поля
і пакут
Нагадваў строга годны продак:
Ты маеш скарбы. І пакуль
Не маеш літасці на продаж.

Часы стрыножаць жорсткі бег.
І жыццяпіс зачыніць дужкі.
Пастануць шчыльныя ў журбе
Цябе запомніць толькі дужым.

## ВАКОЛІЦА НЯМЕЦКІХ МОГІЛАК

Свет. Уздыблены вецер.
Абрываецца голас.
Лядам лес назавецца
Спілаваны нагола.

Старапелай здагадкай
Перакрэслена далеч.
Нават воблак не здатны
Замірыцца з вандалам.

Да адлегі адлегласць
Значаць, бач, не слупамі.
На душы не адлегла:
Засталася сляпая.

Ці знайсці замірэнне
Між шкадою і шкодай?
Дзед з Усходу над Рэйнам
Ловіць памяць на “ кодак “.

А з Нямеччыны пастар

Азначае набожна,
Як палеглую паству
На хадзячых памножыць.

...Нешта журышся часта
У равесніках, браце,
Ці нямашака часу
З часам збеглым пабрацца?

Знакі жаху няўзнакі
Паўстаюць. А здагадка,
Каб былое назначыць,
Паглядае на захад.

## СІНІ КОЛЕР

Самотны сыне
Шкляной прасторы.
Ён цягне стыні
Тугі пастронак.

Не вейкі злепіць –
Вачам служыцьме
Не ў цёмным склепе,
У ясным жыце.

На цяжкім доле,
У лёгкім небе:
У помач – здольным,
Папрок – ганебным.

Старое сэрца
Бяруць за кляпы.
Слязе – памерці.
Сінечы – капаць.

Для цемры светач –
Заўжды за кару.
А колер сведчыць
За ўзлёт Ікарны.

Палёту колер
Звычайна сіні.
У вока коле,
Няйначай, сімвал.

## РЭАЛІСТ

Як па хрыбціне халадок,
стажараў пасак завіецца,
чапляе лапаю худой
за хмараў стог няўклюдны вецер.

За кошт разбэшчаных пазык
маною прагу наталілі,
смярдзіць яе паскудны зык,
як куфар веку, нафталінам.

Не дакарае лёс Дамокл,
да скарбаў сквапныя дапалі,
не падымае ў столь дымок
самоты смутны недапалак.

Не распаліць шчарбіне печ,
у сургучах лісты завіты,
і сам надзею бразнуў з плеч:
навошта ў пекле рэквізіты?

## СХЕМА

Як да сябе дапяць
У лапці здаўна абутым?
Забытае дапяяць –
Няўжо заглядаць у бутлю?

Узрос непамерна сверб
Выключнасці не ў маштабе.
Вось гэтак з забітых верб
Складаюць палены ў штабель.

Дарэмна заенчыў – стоп! –
На хабар зайздроснік падкі,
Нібыта ягоны стог
Гарыць ад тваёй запалкі.

Усцешаны люд аднак
Належным яму дакорам.
А рыльца не бачыць дна,
А дном выбіваюць корак.

Не спозніцца, бач, журба.

Дастане гайня памылак,
А значыць, табе – труба:
Балесны, спраўляй памінкі.

## ЗДАЛЁК

Сіло з павучае страпы
блішчыць спакуснаю пагрозай
і хром капусніка рыпіць,
за ноч разгневаны марозам.

Гарбуз ледзь ногі валачэ,
хоць наступай яму на пяты,
кажан згарнуўся ад вачэй,
бо цемрай быў не раз распяты.

Належна лісцю долам стаць
пад снегам з неба неўзабаве,
на вуха дзеду засвістаць
карціць распусце на забаве.

## БОЯЗНА

Боязна з колаў ступіць.
Паглядам спыніцца.
Вось ён, у далеч тупік
Пад крэкт паясніцы.

Птушак дабіў дэцыбел.
Сплюшчыла знак аўтагенам.
... Пеўнік спружынны дзяўбе
Падлогу на генах.

Снег не шыпеў, як сітро.
Шэптам сваячыўся з мохам.
... Літар няўпэўнены строй –
Буквару на падмогу.

Пазначаны шчэрбай вільчак:
Зважаеш на дробязь.
Робяць балюча вачам
Замшэлыя дровы.

Птах далягляду ды стог.
Вокліч ад рэчкі.
Погляд дзіцячы Талстой

Вяртае на рэчы.

Сябе не спрабуй пераджыць:
Наступнікаў шкода.
Цыруе дзіравы ранжыр
Зламыснікаў кодла.

Бракуе адпрэчаных свят.
Нязвыклых – без ліку.
Хлопчык зірнуў акурат
Ва ўпор баязліўцу.

## ЛЬВІНАЯ ДОЛЯ

Каля валля – смуткі зямля.
Загон, як помста, каля цырка.
І леў загневаўся здаля,
Як вораг людскасці Люцыпар.

У жоўтым полымі саванн
Жадаў арудаваць арапам.
Учынак дужым пасаваў –
Ахвярам раскурочваць храпу.

Абдзёрты лёс узняць з калень
Прымус наўрад ці дапаможа.
Сусед нікчэмны акалеў –
Не вам спазнацца з безнадзёжам.

У грыве жарсці –не ў журбе –
Грудзьмі б на волю заваліцца,
Дзе прагу лапамі грабе
І паважае сілу львіца!

Ірве бясправіца нутро –
Так кутні зуб ірвуць з карэннем.
Не дазваляе зверу трон
Пажыць па-людску на арэне.

Чужое гора не казыча.
Распуста скуру не дзярэ.
Яшчэ каб мазгаўню пазычыць
І хвосцік вышчаміць з дзвярэй…

## СТРАТА

Імгліцца згадка недарэмна…
На сконе хрыплы снег ляжаў.
Маўклівы зарастак на дрэве
Не верыў чуткам з капяжа.

Карой зашамацела слова:
Адліга вызваляла сад.
Ды слова знікла адмыслова,
А сад не вернецца назад.

## ПОШТА

На гузік – плашч.
Берэт надзену.
Паштовы пляц.
Ступлю з надзеяй.

Калі і дзе
З нябеснай квадры
Паўстаў, як дзень,
Паштар з кукардай.

Эпоха драм –
Вякоў нявестка –
З паштовых брам
Насіла весткі.

Матросаў раць
Ішла навошта
За горла браць
Палацы пошты.

Урад наўрад
Усім брацішкам
Аддаў загад
Асновы нішчыць.

Злавесны свет.
Ад стрэлаў пошчак
Не даў савець
Абсадзе пошты.

… Канверцік здаў
У пашчу пошлін.
Стаіць, як здань,

Абора пошты.

Ці можа смех
Слязой праліцца?
Канверт уцех,
Як глечык з рыльцам.

І ён відзён
На зор парадзе –
Дык пошта дзён
Там імідж праўдзіць.

А ты, між тым,
Смакуй з імпэтам
Паштовы дым –
Расу паэтаў.

Стаю, гарот.
Канверт камячу –
У пошт гарод
Ляціць каменьчык…

## ЯШЧЭ ПРА ЛЁН

Закарэла душа хрумсціць:
Адрываюць бінты ад раны.
Лён не ляжа ў пласты трасты,
Покуль з глебы не адарваны.

Заяснеўся Сусвету лён
З ручніковым наранку целам.
Не прыдаўся яму праклён,
Як нягода таго хацела.

Вырываўся, як толькі мог,
Ад задышкі пясчанай пудры.
Выжыў братка. Ён там, дзе Бог!
Светлакудры і любамудры.

## ІДЫЛІЧНЫ СКАЗ ПРА ШАПКУ

*Леаніду Галубовічу*

Падобна да ярма? –
Не даць бы з ёю маху!
Дык помняць недарма

Пра шапку Манамаха.

Мой бацька быў краўцом,
Куды як адмысловым!
Фарсіў яго брыльцом
Наперад Зэльвай Слонім.

З раўнёй маладзічку
Гуляць праз ноч някепска:
На макаўкі цвічку
Вісіць ахвярна кепка.

Прасіў дзяўчо пусціць:
Апальваў шэптам вушка.
А потым у асці
Бывала аблавушка.

Нямеў вучоны муж,
А дамачка рыдала.
Бліскучы капялюш –
Ахвяра рытуала.

Празорца – мілы мой –
Дакладна скажа Глоба:
“ Вось глобус. З галавой
У падабенстве глобус.”

Яму нішто – экстаз
І непагадзь гнілая,
Утульна ў самы раз
З папахай Гімалаяў.

Здзярэ з цябе жыўцом
Яе ў закутку шайка,
Тады на ўсё жыццё
Бязмозглай стане шапка.

І грэшны сам нябось,
Яе ў руках мілую.
Шапчу я шапцы штось
Ды лысінай шапкую.

**АЗАРТ**

З шалёным лётам лот,
Збялелы, нібы ў тынку.

І хруснуў пальцаў лёд,
Як шыбіна ў будынку.

А з берага гульні
Яе віры – што бездань:
Або капшук гані,
Або шыкуй бязбедна.

Падпёр вунь столь ілбом,
Трымае – і не слаба!
Да Гінеса ў альбом
Грабуць такіх за жабры!

А макрахвосты хлыст
Шарнірнай шыяй сочыць:
Ці блісне туз, як ліст,
Народжаны ў сарочцы.

Расшпілены па пуп,
Цыгару нездар гвалціць:
У жарсці шалапут
Не больш шасцёркі значыць!

Паквапіўся валет –
І дама запішчала.
Пачулася б вальней –
Нахабнік не пушчае!

Не падкаваў блыху –
Такой бяды – не страціў.
Калі б абвал дыхнуў
Над каркам – вось дзе страшна!

Сляпы – і ў картах крот.
Празорца ў іх – відушчы!
Заткні анучай рот –
Закрэкча рэха ў пушчы.

Аднак, праз гак атак
За горла хоп карата!
Бо ім цішком праз гак
Падспудна карта ўзята!

**ВЕРАБ`І МАСТАКА ЧЭКІНА**

Аб`ядацца й рабу

Надакучыць з гадамі.
Галадаць – вераб`ю,
Верабей галадае.

Лёс благі на страсе.
Цягне холадам ходнік.
Крошкі неба страсе?
Не зусім верагодна.

Непагашаны гвалт.
Перамешаны вэрхал.
Свет рабы, як асфальт,
Асабліва, паверхня.

Што за род – вераб`і?
У рыззі пагалоўна.
Пад сябе не грабі,
Памыляйся ў галоўным.

Адбывай каранцін,
Нібы бежанец дзесьці.
Толькі як не круці –
Вельмі хочацца есці.

І палез на грудок
Голас просьбы асіплы:
“ Сыпні жменю, браток…”
Братка возьме насыпле.

І не жытка – а рай,
Найблішчасты, бясконцы!
Марлю ў сне не зрывай,
Зашпіталены коцам.

Ласкі сад вырубаць –
Не ў пашане занятак.
Ды не ўсім вераб`ям
Насыпаюць зярняты.

## НАЗІРАННЕ НАД СЮЖЭТАМ

Знявага часу – не ілгаць?
У зморы шоры і маторы.
На даме мусіць палягаць
Сюжет наступнага мінору.

Завязка: на мяжы пакут.
І смага зуб на прагу гострыць.
З герояў: першы – шалапут.
Другі – гастрольны Каліёстра.

На грандыёзных кірмашах
Кішыць разбураны мурашнік.
Панадна аўтару змяшчаць
Свае задумы ў рукапашнай.

Знянацку ў дамы – інтарэс
Да Каліёстра страсна-востры,
А шалапут са смакам спрэс
Падлічваў рэбры Каліёстра.

Але і загадзя фінал
Галоўка ўсё ж не пралічыла:
Герояў аўтар даканаў,
Не даканаў, на жаль, чарніла.

**У ІДЭАЛЕ**

“ Як добра там, дзе нас няма
І дрэнна, дзе мы ёсць.“
Ды там у зле стаіць турма,
А тут – сканала злосць.

Мы рады з початам вітаць:
Дужэй даўжэй, дзяжа.
А там – дык хлеба не відаць,
А тут – яго душа.

Жаданне шляху паўстае.
Кладзецца лістам шлях.
А там – грукочуць па стале.
А тут – забыты страх.

Прыгонны ўсцешаны з ярма.
І ў белай пене косць.
Як дрэнна там, дзе нас няма,
Цудоўна – дзе мы ёсць.

**ЗВАНАР**

Над храмам згорблена завіс
Сусвету выпетраны воблік.

І падаў звон не зверху ўніз –
З зямлі караскаўся на воблак.

У павуціне крыўд маўчаў,
Вятрамі гвалту адсцябаны.
Яму і голас прызначаў
Не поп з прыплюшчанай плябані.

Званар з вяроўкай у руках
Захмар`я бэлькі раскалыхваў.
Апостал гукі сустракаў,
Вядзьмак цураўся, нібы ліха.

І сцягваў з кудлаў капялюш
Араты між часоў і крушняў.
А шматпудовай медзі куш
Меў падабенства з капялюшам.

Ні свет на свеце, ні зара –
Неабыяка люд вініцца.
І б`юцца грудзі званара,
Як звон на стомленай званіцы.

Рабы, як на рабіне дрозд,
І паварушыць вухам ледзьве,
Ён вызначае звону ўзрост
Па векапомным гуку медзі.

## НЕАБРАЗЛІВЫЯ ШТРЫШКІ

Арка.
Трубы.
За трос
пачапілі бідоны.
Кран загрыўкам затрос,
Як галодны з батонам.
Бы з кіно аглаед,
Перасмешнік ля бабы.
Ад пратэктара след,
Што падэшва прараба.
Гразь. Яе апрача
Шкло раструшчана ў доле.
Зроку брак прачытаць
Абрэвіятуру будоўлі.
Бы ў закутак вазон,
З пусткі выкапень збочыў.

Свет навылет відзён,
Перакрэслена-блочны.

**ЦЫТАТА**

Узнёсла апеў юнак
У лічбах бяду і быдла.
І ўсё выглядала так,
Маўляў, жыццё не абрыдла.

Ніводзін, лічы, радок
Нічым не нагадваў здрайцу,
А рваўся з імглы рудой
Запалкамі растарацца.

Напрамак, паход і ход
Вызначыла натура.
Заблыталі ўласны код:
П`янелі наўзрыд амуры.

Запомніўся абразок,
Можа здацца – мізэрны:
Зрывалі з продка рыззё –
Няўжо апранаць музеі?

А голас любві гучаў,
/ Дзіравыя ў нас заглушкі /
Бы з лесу зімой ганчак,
Ці летам уздых за грушай.

На жоўтым пясочку ўздоўж
Лубін паслаў цырату.
…” Усё размывае дождж…” –
/ Канец цытаты./

**КАТАРСІС ГРАФАМАНА**

Слова жорсткая тарка,
Як скарынка ржаная.
Нечуваны катарсіс
Графаман пражывае.

Сын і аза, і ведзі,
І ахвяра камедый,
Не з дзяржаўнае веды:

Лоб пакурчыўся медны.

Не палацаў палонны,
Прагай спалены вязень.
Не яму апалонік
Каля касы навязваць.

Вось ён, сверб – памагаты
Безнадзейнаму енку:
Любяць чарку магнаты,
А паэты – паненку!

Шулы рвуць з частаколу,
Знай, рэдактары-фаны,
Не абходзяць акольна
Буйны пляц графамана.

Боскі талент фармальна
У “ вярхах “ – не апошні.
Знача, цэнз графамана
Не апошла-аплошны.

## ПАСЛЯ АБМЕРКАВАННЯ

Зарубалі пачатак.
Скалашмацілі стрыжань.
Твор, як дыхта, па частках
Праляцеў над Парыжам.

Разбянтэжаны: аўтар.
Выдавец: пры інфаркце.
Легла бітая карта:
Незнаёмая з фартам.

Ды пашэнціць вашэці
Лашчыць сверб пераплётаў:
Да святога прышэсця
Збор рыхтуецца плётак.

## НАКІД З ХЛОПЧЫКАМ І ДЗЯЎЧЫНКАЙ

Гракі ў прадчуванні. Званіца.
Як крыжык акругі нацельны.
І з дрэваў паспелі зваліцца
На снег абчасаныя цені.

У розуму кшталт не яловы:
Не мосціцца месяц пад бэльку.
Расцягвае хлопчык мясцовы
Гармонік платоў у Адэльску.

А ў птушак паседжанне сейма:
Ага, неабходна вучыцца!
Гукаюць дзяўчынку: – Ак-се-ня…
Пачула.
Пазнала.
Імчыцца!

## У САМОТНАЙ ПРАСТОРЫ

Узрост заржавелы. Рэжым.
За фалды чапляецца вета.
Не міма, балесны, пражыў?
Захочацца ведаць.

…У вербы ныраем. Уздых
Залеглай у доле гравійкі.
Не ўзнік інтарэс да язды
У хмары з рыштункам графіту.

Не кінуўся ў роспач адхон.
І шыне над ім – абыяка.
І толькі таго – што сабака
Сумленна пазнаў наўздагон.

Няўклюдна адлічваць назад
Гады. А лічыльнік не церпіць.
Падобна, у сне нумізмат
Спяшаецца талер працерці.

… Рыбак у пакутах самлеў.
За брамай бразгоча даёнка.
Зацыклены першы на донках,
Другая памкнулася ў хлеў.

… Зажураны бор, як бабёр.
А недзе, напрыклад, у Берштах
На возеры месячык блешча,
Блізнюк яго ў небе замёр.

Стаміўся Сусвет /пра запас /.

Не стане навыцяжку колас.
І сонца абшарнае кола
Прагрукала зноў міма нас.

**КАНЕЦ СЕЗОНУ**

Бераг. Хмары. Дашчак.
Безнадзейныя сеці.
Пры тутэйшых дажджах
Застаецца – прысесці.

На шчарбатай сцяне
Не наскальныя знакі.
Казярог спруцянеў
У хляве Задыяка.

Сама бачыцца спад
Інтарэсаў пячорных.
Тлуму хочацца спаць.
Сум пабрыў у прастору.

І ў сезону дабра
Злазіць лета пазногаць.
Яўна дождж перабраў:
Пёс кладзецца пад ногі.

**ТРЫЯЛЕТ ЛІСТА**

Прымаю пад ветрам наслых
Ліст кляновы – як твор лістапада,
Пяшчотны і ладам, і складам,
Прымаю пад ветрам наслых.
Чаму ж мне не помсціць балада,
А толькі зажальвае дых?
Прымаю пад ветрам наслых
Ліст кляновы – як твор лістапада.

**БЕЗ НАЗВЫ. ВОСЕНЬ**

Заблудзіў анекдот
Аб казловых надоях.
Нават пеўню з нудой
Не смакуе на доле.

Нібы ў Іўі мячэць,

Ціша дрэвам шаптала.
Ліст пажоўклы змякчэў
Па-за шыбай шпіталя.

Да калядных забаў
Дым смактаць абыяка.
Сам сябе занядбаў,
Бы няўдаліцу байка.

Вось бы шал пераняць…
Грымнуць лічбай знянацку!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хіба ў штат Пяруна
За абслугу наняцца.

## ПАД ШАЛЯМІ

Злуе сабачы брэх:
Заела жытка злая.
Вавёрка дзьме ў арэх.
Хрумсціць капустай заяц.

Кастрычніцкі запал
Пад першым лёдам глухне.
Празрысты ліст запаў
Бярэзніку за вуха.

На зэльвенскі кірмаш
Габлюе клёпкі бондар:
Капейчыны нямаш,
А нос апух, як бонда.

Напеша напрасцяк
Туман валочыць стому.
Падобна халасцяк
Папоўз з чужога дому.

Наперадзе ў брыдзе
Не чорт грудзіну клычыць
І ў Бога ў барадзе
Слязу за дробязь лічыць!

На Шалях зорак шмат:
Любую бабу ўразіць!
Вось чарка. Сала шмат.
Жыву ва ўсякім разе.

# 2

## БУСЕЛ НАВІДАВОКУ

### З`ява

Зноў паўстаў на балоце,
як вятрак
з успаміну.
Апраменены патрыёт,
заложнік камбайна,
франдзёр куп`я,
выключны клічнік
прасторы.
Хто клёкат уласны
засунуў
у пятлю абурэння.
Страціў абачлівасць
з-за нішчымніцы.
Часова эміграваў,
каб не змерзнуць.
Дзякаваць Богу,
недатыкальным застаўся
колер.

## МЕТРЫКА

Безліч разоў перакульвала
збянтэжаны
свет.
І ніводным землятрусам
пры тым не растрэсла
пасведчанне аб нараджэнні.
У ім і зараз у згодзе
 і мама, і тата –
жывыя.

Лісце кастрычніка
заштукавала
шыбіну хутара.
І ўтульна голасу
у прыгаршчах Беларусі.
Вось чаму боязна
хоць адным вокам

зірнуць
ва ўласную метрыку –
каб не сурочыць.

## РОСТ

Пазначыў апошні перапіс
у неўміручай
Зэльве
8352 асобы.
/ Як і належыць,
большая палова – дзеці./
Лічбай такога кшталту
на 1258 год
не дасць рады хваліцца
Іпацеўскі летапіс.
Да ўвагі шаноўных:
не было ў паміне тады
апухлай Чырвонай кнігі,
Мамантавага камітэта
і, уявіце сабе,
гуртка
па ахове правоў чалавека.

## РЭСТАЎРАЦЫЯ

Пад панцырам тынку
спачываюць
другой сусветнай
адмеціны.
Замест разбітых
устаўлены новыя шыбы
празрыстага кшталту.
Пафарбаваны
высокія дзверы,
праз якія ўнутр
заганяла дзікунства
коней.
І больш за ўсё
зыркім бляскам
адорвае навакольную далеч
німб залаты
над званіцай.

## ТАЛЕНТ

Пяюн затуляў талент
у сярэбраным горле.
Яго з крывёю і свістам
вырваў
асколак шрапнелі.

У празорцы
яго бессаромна
выцягнулі і шпурнулі
на сметнік
пячорныя рэвізоры.

Вястун сам сябе
жыўцом закапаў
у друз
пад карчмою спакусы.

Штукара пад скабы цішком
штурхала
каханка.
І ён бразнуўся ў ногі
д`яблу.

А вунь назіральнік за ўсімі:
валачэ на плячах
закасцянелы
горб зайздрасці.
 У-уф!..

## ПРАТАКОЛ

Прысутнічалі:
аўтар засмечанага рамана,
аб`ездчык былой аповесці,
паломнік трухлявай тэрцыны
і іншыя ваяры за бяздомнасць.
Абмеркавалі і аблізалі:
загадчыцу літучастка,
пастаноўшчыцу поз,
масажыстку боегаловак
і etc.
Пастанавілі:
адзін – на ўсіх,

усе – на аднаго!

## РАНІЦА

Зноўку даў маху руплівец,
атрасаючы долу
абноскі сну.
За порогам дома
звыкла яго чакалі
зашмальцаваныя ходнікі,
ападкі
ў выглядзе дажджу і снегу
і растапыраны
ва ўсе канцы
светлафор.
Нават жонка, бедная,
не здагадалася,
што муж пасунуўся
канючыць ліцэнзію
на вяртанне страт.

## ПАРАДА

Мой стрыечны швагер,
распушчэнец,
жлукта
і патэнтаваны мярзотнік,
па сакрэту паведаміў:
табе, маўляў,
каб майго дасягнуць узроўню,
драбязы не хапае –
узнаві ў мазгаўні
табліцу множання.

## НА ГАСПАДАРЦЫ

Не даў рады
прыручыць салаўя
і сам пасівеў
заўчасна.

Дарэмна карміў ваўка,
бо той
бессаромна

на лес азіраўся.

Не затрымаліся
на зіму
буслы
на баране забавы.

А потым
конь акамянеў,
стаячы
над яслямі згадак.

І нават сабака
прыплюшчыў вока,
каб не бачыць
безнадзейны рэзрух.

## АРХАРАЎЦЫ

Нібы густое малодзіва,
з нафтабазы
выдойвалі цымус.
Не раўнуючы, як ліпку,
абадралі
да апошняга шпалера
дзіцячы комплекс.
За адсутнасцю больш
дастойнага
апаскудзілі могілкі.
А як схаваць накрадзенае
ў цемры пекла,
нават
пры калектыўным падрадзе
ніхто не парупіўся.

## ПАМЯЦІ ЛІХТАРА

Некранутымі засталіся:
трыбухаты кадобчык
з успамінамі пра мяды,
няўклюдны зэдлік
прымусу,
нябачныя сілуэты
фантазій
гаспадаровых

пад назвай “ Запечак “
і ў дадатак
неўміручая мыш
пад венікам.
А зладзеі паквапіліся
на ліхтар,
і ён, няўдзячны,
іх ахутвае недзе
змрокам.

## ПАД`ЁМ ВАДЫ

Ці наважыцца нарэшце паведамленне:
“…на ўсіх рэках Беларусі
пачаўся
пад`ём вады...”
Занепакоіліся,
занерваваліся,
зарадаваліся,
загрымелі,
заяснелі
і кінуліся!
Але чамусьці ізноў марудзяць
абмыць
каравыя ногі
дубам на Гарыні
ахвярніцы
Белгідраметцэнтра.

## НАТАРЫЯЛЬНАЯ КАНТОРА

Дзівосы дый годзе! –
успляснула рукамі
бабуля Феміда.
Абыякай пячаткай
тут могуць гарантаваць
бязбедную вольніцу
абібоку.
Падсобяць чорнаму следапыту
скарб адшукаць,
як сякеру пад лаваю.
Дазволяць зруйнаваць
палац успамінаў
у выглядзе бацькоўскага хутара.
І толькі што паведамілі:

у якасці
новай паслугі
здольны дакляраваць
датэрміновую
неўміручасць.
Засталося
зашнураваць
чаравік
і шураваць
да натарыуса.

## АБРАЗОК

На застаўленай жыццяпісам
паліцы
высах да дна
атрамант.
Зёлкі любчыку
асыпаліся на падлогу.
Стос лістоў
з маладосці
скруціла
шпагатам раматусу.
І толькі праменны смычок
даткліва кранае
струну павуцінкі.

## ЗДЫМАК З ВЫПАДКУ

Зноў зіма. Незнарок.
Люд не выракся гурту.
Дзіўна. Ледзь не зароў:
Вунь жанчына на гурбе.
Елка. Шалік . Сезам.
З ёй нязграбны мужчына.
Дык няўжо гэта – сам?...
... Паміраць немагчыма.

## 3

**ДРАМАТУРГІЯ ЯДЛОЎЦА**

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ АБО КАРТКА ПРАЛОГУ:

Ядловец звычайны / juniperus communis /:
з роду хвойных, з сям`і кіпарысавых. Расце ў
падлесках, а таксама на адкрытых пясчаных
месцах, на бедных глебах. Жыве да 800 гадоў
і больш.
Асобныя прыкметы: вечназялёны, мужны, стойкі.

ДРАМА

Баёў дыярама. Засоп
Пад дротам і потам:
За ядлоўцам акоп
Выгрызала пяхота.

Не на злёце свінец
Драў ядлоўцавы скулы:
Не кальчугай звінець
Аб варожыя кулі.

Ён адказны за тыл,
Як заложнік за слова.
Вунь ядловец застыў.
Нібы помнік…
/ Заслона. /

*КАМЕДЫЯ*

На калючках мароз
Назапашвае мосце.
Ды ядловец не рос
Ад пяшчоты да злосці.

Пырснуў іскраў фантан
Ад зялёнай каметы –
Так прыблізна вітаў
Ён прыгонных камедый.

Ды ці мог скамарох
Сум атрэсці з галечы?
Ёй ядловец памог

Трэскам з велічнай печы.

І абшару жадзён,
Месяц толькі што ў чвэрці.
На сцяну – не ў загон –
З печы шаснулі чэрці.

І ядловец матляў
Іх дзікунскае кодла!
Вецер так матыля
Не цягае на модлы.

Падаў вобзем услон:
Рогат слізгаў з услона!
А ядловец, як слон,
Трушчыў чорта!
/ Заслона. /

*ТРАГЕДЫЯ*

Непадлеглых вякам
Іскра здольная сцерці? –
Выбухае вулкан
З ядлаўцовае смерці.

Божа вольны забраць
Нескароных у помач.
Хто апосталам брат –
Той палае запоўнач.

Міг – яму драбяза:
Ён старэйшы за соймы.
Узлятае брызант…
Ападае…
/ Заслона. /

ЭПІЛОГ З УСПАМІНАЎ

Каб прайсці праз чысцец,
Нібы ў непагадзь лоцман,
Не часцей, а чысцей
Б`ецца сэрца ядлоўца.

Там зямляк – як стаяк –
Не ў паўзгібе міністра.
Ён ядлоўцу – сваяк,
Бо таксама смалісты.

Пяцярнёй валявой
Бразнуў злодзея ў сані!
Перадаў валавод
Ён ядлоўцу таксама.

Не накіне кажух
Наапашкі завея,
Дзе ядлоўцавы дух,
Як зямляк, бранзавее.

Як гара ды з гарой
Аб`ядналіся спеўна –
Так узлеску герой
Стаў героем паэмы.

Пракаўтнуўшы камяк
Са слаўцом нескаромным,
Не зграбастаць кумпяк
Вылез з пекла праз комін.

Ён па службе сусек
Даглядаў адмыслова:
Зерне прэч не знясе –
Падмятае ядловец.

За загрывак аблаў
Ён сцярушыць ігліцу.
Эх! Была не была:
Рызыкуе не гіцаль!

Не з пазнакай на скон,
Скон не сведчыць карысці,
Гадаванец пяскоў,
Пасланец кіпарысаў.

Прагным хрэсту вачам
Край для схову адловіць:
Свечкі ўзмах не зачах –
Над узгоркам ядловец.

**КРАСНАСЕЛЬСКІЯ ШАХТЫ**

Красносельскія старажытныя шахты
па здабычы крэменю ўзніклі ў эпоху
неаліту і бронзавага веку.
*Красноселец Міхась Верацiла* –
іх даўні даследчык.

Скарыстаў ледавік
Для спачыну закутак,
Бо вяльможна прывык
Спаць набела закутым.

І ашчадна паклаў
Не заморкам заначку:
І мясцовы анклаў
На здабычу засвячыў.

Там, дзе ўдолены мел,
Жыта спору не мела.
А хто жыта не меў,
Сам, як мел, анямелы.

Ды маўчок пра сухар.
Гналі ў яміны звера.
Шахта рыхтык змагар
І найболей – з зняверам.

… І глыбей як мага
Лез не шляхам трацілу
У стагоддзі Міхась –
Жыццяруб з Верацілаў.

І на сподзе вякоў
У асуджанай штольні
Поўзаў, не як віконт
Каля ножак спатольніц.

Мацаў зморaны след,
Што зняволіла плесень.
Ведаў: сам на той свет
Больш ніхто не палезе.

Спадзявацца – хвала,
А здзяйсняцца – пачэсна.
Цёмны свет хваляваў,
А на белым – не цесна.

Дзе зацьмелы вапняк
Колісь прага капціла,
Стаў рудым, як смаляк,
І шахцёр з Верацілаў.

Прашчур вечна не мог
Асалодай валодаць:
Ён у шахце нямой
Знік, як голас пад лёдам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па-над Россю свістаў
Гул ракетна-турбінны:
Шахты ён не вітаў,
І яны не трубілі.

Чорнай скрынкі капец
Не агучваюць шаты.
Га! Скрабецца разец
З краснасельскае шахты!

**ТРАКТАТ ПРА КУКУРУЗНЫ КВАДРАТ**

*УСТУП*

Поле змерыць прасцей
Кірзачом заскарузлым.
Да трактату прысцен
Шалясціць кукурузна.

*АСНОЎНАЯ ЧАСТКА*

Свет сталёва сталеў,
Дзе калгас Задыяка.
На суконным стале
Стыў графін, як адзнака.

Надаваўся не ўрок,
Дзе на ўліку падлікі.
Правадыр назнарок
З рамы вокам не лыпаў.

Ён пазначыў квадрат
На прыўскрайку Саюза,
І квадрат акурат

Мусіў стаць кукурузным.

Рыбе гніць з галавы.
Боту шчэрыцца дратвай.
Метад быў гнездавым
І выключна квадратным.

Не з тутэйшых раслін,
Не распешчаных кветак –
З кукурузнай расы,
Знача, піць запаветы.

Ды наўрадзе быў рад
Кемны дзядзька квадрату,
Бо зазвычай, квадрат
Быў падобны на краты.

Не забыцца аднак,
Бог не дзеліць пароўну:
Рады, бач, не земляк,
А найболей – вароны.

Плоймы чорнае крэч
Нёс для каліва згубу.
Крэч жа меў насамрэч
Дубаломныя дзюбы.

Крэчы слухаць з тых пор
Наш знаёмец – аматар:
Стрэльба з хлопцам адпор
Забяспечвала стратам.

Не крактала карцеч –
Руля плюскала шротам.
Каб сказаць карацей,
Дык грымела шырока.

Перад полем – квадрат,
Як мянзурка ля кварты.
Самаволкай салдат
Ратаваўся б з квадрата.

Травастою назло
У квадратную метку
Асядала гняздо
Праз праслаўлены метад.

Метад, як пілігрым,
Ставіў латку на латку.
Нават Полюс па ім,
Пэўна, ставіў палаткі.

“ Нас нічым не стрымаць:
Хай задушацца Штаты!
Метад пэўны, пся маць –
Гнездавы і квадратны! “

Сёння – куркам на смех –
Зверху сыпаўся вэрхал:
У квадрат, нібы мех,
“ Цыркулярыла “ зверхам.

Несумненна цяпер:
Кукурузным каратам
Прызначалі давер,
Грудзі гонар пакратаў.

… На дзятву, як Дзітву,
Прага гульняў напала.
І пад паху дзятву
Кукуруза хавала.

Схоў яе шалясцеў,
Як пясочак па блясе,
Ці сцяжок на шасце
На партыйным балансе.

Ёй сябе не спыніць
І без воклічу злога
Жыць ля доўгіх станіц
На паўднёвых разлогах.

ЗАКЛЮЧЭННЕ

Грэх – на ніве лаўчыць.
Шчасце – стаць памагатым,
Мала – гучна злучыць
Гнездавы і квадратны.

Жаўр не плача ў бядзе.
Лён шчаслівы ў шматкраце.
Спіць яечка ў гняздзе
Без смуткі па квадраце.

ЗАЎВАГА

Прабачэння прашу
За фінал недарэчны.
Мусіць лёгка пішу
Пра важнецкія рэчы.

**РЫБАКОВА ГАВЭНДА**

Звесіў дуб набакір
Хмарку з левае скроні,
І пад ёй рыбакі
Вершаць фэсцік скаромны.

Інквізітар платвы,
Шчупакоў ліквідатар.
Сушыць баек плыты
Анекдот барадаты.

Вартавы венцяроў
Да чынарыка ласы.
Над дымком вецярок
Точыць з ножыкам лясы.

Трубіць нос: абібок
Лашчыць глюгу ля дуба,
Як гарматны баёк,
Ці абломішча туба.

На трывалым круку
Сецяў курчацца споднi,
Каб яльцу-байструку
Скрэбці скабы з-пад споду.

І шчанюк не брахне,
За бяспеку адказны.
Брохне язь, як дыхне,
Без ніякіх аказій.

Сама раз – на прывал,
Немінуча – пад дубам.
/ Адпачыць напавал
Той таксама задумаў./

Эх, дымок-кацялок,

Нястрыножаны дыме!...
Кажуць, Бог – не цялё:
Круцяля не абдыме.

Выгібаецца плёс,
Не раўнуючы рыбай.
Шлях ракі – ці не лёс
Жыццядайнае трыбы.

У атопках з травы
Не бязглуздае людства
Любіць воблік крывы –
Свой жа ў завадзі – люстры.

Мудрагеліць – не час:
Д`яблу – віды і веды!
Хоча страўнік пачаць
Не з нябытам гавэнду.

І аб`ездчык сама,
Нават ёршыка вершнік –
Люта свішча сама,
Юшка, нібыта вершык.

Стойма стане казан.
Апалонік жадае.
І душа, як каза,
Што да скокаў жадная.

Каб дазнацца пра змест
Казана-казановы,
Прыўздымаюцца з месц
Дзядзька,
цюцька,
замова.

Верхавенства ўзяла
Рыб тутэйшых плеяда.
Соль – не носьбітка зла.
Хмель – як праведнік ладу.

Як здзіўленне з акон,
Так прырода не дыша,
Юшка, браце, закон
Пераверне, як дышла!

Да яе без румян

Не падступішся танна.
Юшка – больш, чым раман,
І не меней, чым тайна.

Юшка мае, пся маць,
Не працэнты – рэцэпты:
Юшка здольна парваць
Нават сувязь з райцэнтрам!

Загінаю? Прабач,
Мне прыпомніць не прыкра
І прыпеўку, як бач,
Вось такую, напрыклад.

Едзе дожджык на палі
Хмаркаю-пялюшкаю.
Мы гарэліцу пілі,
Запівалі юшкаю.

Дык бліжэй, грамада!
Стогне юшка трайная,
Так сябе чамадан
З кантрабандай трывае.

Далібог, не святы,
Бог з нябёс сузірае,
Каб кагось жываты
Не стамілі зарана.

Наш такі чалавек,
Шчасце ў дробным адзначыць:
Келбік.
Кропля.
Не ў грэх –
за падшэўкай заначка.

Дайце рады – капцы
Шчупаку-шалапаю!
Падаспелі купцы,
Што з размахам лапаюць.

Рыбака ж запавет:
Бераг мецца за падушку.
Вось занесла за свет –
Ні пялюшкі, ні юшкі…

**ЛЕСАВІК**

Апавяданне

Прастарэк і штукар!
У аблозе лясніцтва
Ледзь яго адшукаў –
Загула паясніца.

Бездакорна / адзін! /,
Знача, бачыць наперад,
Сам сабе камандзір
Без дазвольнай паперы.

Не пры чарцы казаў:
/ Пад абцасам акурак /
Казакуе казак –
Пацяшаюцца куры!

У вячыстай красе,
Як злавеснік мутацый,
На пушчанскім крысе
Прагне цэзій матляцца.

Павылазяць з лазы
У гразоце за сцёгны –
Будуць чэрці вазіць
На зняверaных дзёгаць.

У смалісты квартал,
Што па цэнтры Еўропы,
Варта Бога вяртаць
З-пад замка агітпропа.

… Падаў з рос пад кірзач
Сцежкі блізкай пярсцёнак,
Бы жадаў наказаць:
Стане светла – дзе цёмна.

Месяц змог прасачыць,
Каб лясы не карала:
Вешаў хмару сушыць,
Як анучу, на рала.

У дуплістай сасне
Залатыя арэхі
Не дастане і ў сне,

Хто нагружаны брэхам.

І жыве прастарэк…
Снег зіма абівае
І пад полазу крэкт,
І пад шэпты – бывала.

За калядным сталом
Пад прымус найскаромны
Ён лятаў сакалом,
Непадлеглы каронам.

Аблавушкай махаў,
Як Сусвету падданы,
З лесу дзядзька Міхась –
Не Мішэль Настрадамус!

## ЗАСНЕЖАНЫ СШЫТАК

Паэма

### УСТУП ПАДАРОЖНЫ

Па крывой дарозе наперадзе не відаць.
З досведу.

Шлях да неба – зямны.
Стогне лёду кувалда,
Каб па браме зімы
Гахнуць ладам калядаў.

Снежны ведамы змест:
Рунь загорнута ў змесце.
Звыкла промня замест
Сцежку высвеціць месяц.

Бы ў агонь піянер,
Шыю ў замець захутаў,
Паспяшаю з папер,
Як зазвычай, на хутар.

Там – не зведаць сумы.
Там – зара на рамёнах.
Сохне ў сшытку зімы
Снегу белы рамонак.

Ведай сам, дуралей,
Ты ў вандроўцы – не лёкай.
Розум бачыць далей,
Вока бачыць далёка.

На разломе эпох
Дзеляць скарбы пажадна.
Далібог, калі б мог,
Падзяліў бы ашчадна.

Ходзіць век палявацць:
Вось ён, надпіс наскальны!
На яго напляваць –
Значыць – удасканальваць?

На рашучым цвічку
Заматлялася бірка:
Бач, крутому смарчку
Дайце рай не ў прабірку.

Паратунку! На дно
Беларускай даёнкі
Зноў адну за адной
Лапы сунуць падонкі.

Чуе – кажуць – глухі.
Пора даль ніцавокі.
Бавяць свята глякі
Без аглядкі навокал.

Дух, як голуб, аслаб.
Штосьці можацца слаба.
Здасца лепшаю з баб,
Мабыць, снежная баба.

Храм за пасмы прыцяг
Да прычасця замову.
Будзе існым працяг
На пачатку зімовым.

Дык павернемся зноў
Да самотных сумётаў.
Пачыналі з азоў
Пагатове самотных.

Шлях пазначыў прарок
З палачанскім узрокам,

Цемру ён распароў
Бібліянскаю кроквай.

Зноў за пазухай грэць
Росчырк любай расніцы.
Вечар, сквапны на грэх,
Ранак, прагны драбніцы.

Каб не ў холадзе стыць,
Грэйся словам не ў ступе.
Цень паэмы стаіць
На прыступках уступу.

Непадлеглы штыкам,
Лёсу крэўна аддany,
То не ў згібе штукар,
Што загнана-заганны.

Сам сабой кіраваць
Навучаўся ў нябёсаў
І шляхоў караван
Весці ўдалеч не бойся.

## СКІБА

– Чаму ты, чорце, у пекле жывеш?
– Бо я тут прывык.

З размовы.

Знік сумнення павук,
І за ім замялося…
- - - - - - - - - - - - - - -
Знаўца мудрых навук
І жаночы мілоснік.

Тое будзе пазней,
А пакуль што ён – Росцік,
Сын, тутэйшых людзей –
Тых, хто шые і косіць.

Не басяк і лайдак,
Цешыў подпісам вельмі:
“ Сачыненне складаў
Скіба Росцік з-пад Зэльвы“.

Не прыхільнік манер,

Што ў мяшчанскім наборы.
Кнігу вагаў і мер
Не чытаў у гуморы.

Сцягам спраўна махаў,
Ад натугі чырвоным.
Бег хутчэй як мага
Па значок " абароны ".

Быў сыпучым памол:
То ж сістэмна малола.
Палюбіў камсамол
Росцік, друг камсамола.

Словам, поўны камплект,
Мовіць так, выхавання.
Ды не плойму ж калек
Там цішком прыхавалі.

/ Вось, дарэчы, на днях
Бачыў Росціка аўтар.
Цемя плешка відна.
І пад нікелем аўта.

Над сям`ёй – парасон.
Пры даглядзе жывоцік.
Зуб на зуб – перазвон.
Палавіна – у " шмоцці ".

Не на фота ж здымаць –
Думаў, весела сядзем.
" Часу браце, няма…
Да таго ж – пры пасадзе…"

Ну, і ліха бяры!
Мусіў нанач падацца
У маленства бары,
Пад маланкі юнацтва.

Бляск ад тых бліскавіц,
У разломе чароўны,
Мог планету спавіць
І гайдаць на чароце.

Помню, быццам цяпер,
Ці не з боскае ласкі,
Росцік дождж у каўнер

Пёр і пугаю ляскаў.

Кожны сам сабе рад,
Дзе трава не ў прастоі.
Вызначаліся ў рад
Коні.
Бусел.
Прастора.

Конюх лена жаваў
Над пудэлкам сівушным.
А хлапчук начаваў:
Жолаб вольны ў канюшні.

Час быў здольны штурхаць
У пітомніку звягаў.
Падабенства ў штрыхах –
Конь і знак перавагі.

Росцік, Бог барані,
Быў у справе пры справе.
Значыць, быў на кані,
Конь заведама спраўны.

Зычыў невукам скрут
Злодзей, сябра закона.
Правіць коньмі хамут,
Росцік дбае за коней.

Вынікае з таго:
Хлопец шляхам вячыстым
З непазванай тугой
Конна едзе вучыцца.

* * *

Збан стаіць без прынук.
Разаб`ецца – асколкі.
Збан спакусных навук
З ручкай трэснутай толькі.

А дастацца да дна,
Як Мастачка казала,
Поўня ў поўдзень відна,
Як мячэць у Казані.

З колбаў, схем і табліц

Росцік вылушчыў слова,
І мільгала, як бліц,
Слова – знак дзеяслова.

Ён ці ўнікнуў спакус
У архіўным зацішку?
Быў нябесным Ісус,
Палачанскім – Францішак.

Прынцып ясны ў навук:
Не з узгорка галёкаць
І ўздымаць галаву,
Бо нікчэмна – галоўку.

Прага цягне да зор,
Не бяда – што сцюдзёна.
Атрымалі дазвол –
Перагортваем дзённік.

14. 02. 196…г.
Бунт на кухнях. Гістпарт
Забінтуе каноны.
І здаюцца пад спрат
Камунізма каньёны.

17. 02. 196…г.
Ехаў з войска сусед.
* * *
Выступаў Магамаеў.
* * *
Пыл запоўніў сусек.
* * *
Маем тое, што маем.

24. 04. 196…г.
Дырыжор, як бязмен,
Важыць прыму балета
Пад павальны абмен
Камсамольскіх білетаў.

7 . 06 . 196…г.
Зноўку грошай няма.
* * *
Мужна ўражвае Герцен.
* * *
А яшчэ дыямат

У марксісцкай манерцы.

На старонках – струпы,
Прыхаваныя тлумам…
/ Папярэдняй страфы
Варта схему прадумаць. – аўт. /

10. 06 .196…г .
Захад нам нездарма
Зноў у зле падаецца:
Бач, там летам – зіма,
Правіць баль не дыета.

І саюзны бедлам
Здасца здоўжаным раем.
Карак дня асядлаў:
Сам сябе сузіраю.

15. 06 . 196…г.
Зцьмела быту слюда.
Сала бачыцца брусам.
Можа ў рыфму складаць,
Як паплечнік па “ бурсе “?

“ Невыгодна гадаць:
Аскаромімся промнем?
Лад адвык гадаваць
Краю квет на скаромным.”

17. 06. 196… г.
Бы ў Хрыста пабываў…
Дах вятроў не гундосіць.
Локаць.
Шыя.
Абвал…
Заўтра Сёмуха. Досыць.

8. 01. 196 …г.
Уявіце сабе:
Сэрца выняць чужое.
Дробязь – шахты… Сібер…
Лёс – карэнна-крыжовы.

ПершАхвярнік памёр.
ПераЕмнік трывае.
Люд ад жаху замёр –
Рукі сэрца ўтрымалі.

Мне б не зладзіць з чужым,
Лепш сваё – між ціскамі.
Сэрцам новым пражыць? –
Не прыняў бы таксама!

29. 03. 196…г.
Кажуць, Бога няма –
Вера " істаў " задышных.
Ім бы толькі ўздымаць
З дзіркай вымпел на дышле.

1. 03. 197… г.
Свет наўрад пасталеў
З-за капрызаў харызмы.
Дык няўжо пісталет –
Пседаўнім " закулісма "?

* * *
Сам шчаслівым не быў,
Мусібыць, даўнавата.
Урастаю ў нябыт
Немінуча, як хата.

5. 04. 197… г.
" Не трапляй у рышток…" –
Ліст прыслала Мастачка.
\- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -
І мастачкі радок
Даў " цікаўным " патачку.

Знача, дзённіка " друг "
Быў па-снайперску трапным:
На пакутлівы круг
Скіба раптам патрапіў.

МАСТАЧКА

Вялікага дуба з малым коранем не бывае.
З праўды.

Весткай злых перамен
Часу грукала тачка.
І не толькі прамень
Назіраў за Мастачкай.

У цывільным сяржант
Дымам зенкі завесіў.

Прагна жэрла іржа
У майстэрні завесы.

Не ўтрываў каранцін,
Згубы згорбленай повен.
І з гаручых карцін
Абазвалася – “ Споведзь”.

… Там стаялі насмерць
Пераломы ў пагодах.
Здзеку з`юшаны смерч.
Змрок памерам заўгодным.

Праз пранты да Інты
Гуд даносіўся медзі,
Голас медзі святы,
Ён з-пад Гудзевіч недзе.

Дуб прасцёр карані
У прынёманскім лоне.
Фарбы вабных краін –
Цень тутэйшага лёну.

Кветкі шал прыдушыў.
Каб давесці да нэндзы,
Шмараваў па душы,
Закарэлы, як пэндзаль.

Прагла свята душа.
Свет аплецены прагнуў.
Крона ўнікла граша.
Спаміналася Прага…

Там вучылася шыць,
Ды каб жыць на падачку,
Лепш тады і не жыць –
Быў зарок у Мастачкі.

Дужы дзед, як стаяк,
Вус няскрушна пакусваў:
“ Шалі роўна стаяць,
Іх варушыць спакуса.”

Хоць і рос пры сцягах
Росцік, востры на вуха,
Ён нутром спасцігаў
Без плакатаў навуку.

Знаў: з чужога стала
Хлеб цішком не бярэцца.
Росцік Скіба стаяў,
Бакалаўр пры бярэце.

* * *

Каб вярнуцца назад,
Пройдзем " Споведзі" гарам –
Сум на струны нізаць,
І на іх жа заграйма.

" Ель мая, ды зялёная!
Старана мая, ды вясёлая.
Ні магу я прызабыціся
У ночы сплючы, у дзень ходзячы,
Устану я ранюсенька,
Ды ўмыюся я белюсенька.
Дый выйду я на вуліцу,
Ды стану на камушыку.
Ці не ўгледжу салавейчыка?
Салавейчык рання птушачка.
Ці не быў ты ў маёй старане?
Ці ні плача айцец, матка па мне?

Плача, плача, убіваецца.
Трава з травой развіваецца.
Дзе ж ты, дочанька, прапала,
Што з табою сёння стала? "

Паўстае над расой
Край , малітвай паліты.
Не сабраць адрасоў,
Скуль крыжы на палітры.

А дакладней, ён быў,
Пакалечаны адрас:
У сузор`і Жальбы
У прыгнечанай квадры.

Нібы цень цесака,
Бруд хрыбетнік выпростваў.
Да грудзей прыціскаў
Жаль
        запознены Росцік.

Свет – бязглузды вакзал.

Шлях імжа закілзала.
“ Чорт нам рай паказаў, “ –
Так Мастачка казала.

Цісне фарбу пліта,
Ды дазвол на палёты
Бусел браў і лятаў,
Як анёл, на палотнах.

Птушцы – гвалт, як турма.
Дайце неба каберац!
Росцік “ Споведзь “ трымаў,
Нібы птушку, аберуч.

Дзень адчайны, як цуд,
На абломку нястачы.
І шчымлівы эцюд
Надпісала Мастачка.

“ Аднойчы ночкаю цёмнай,
толькі не знаю гадзіны,
выйдзеш на бераг Нёмана,
я невад табе пакіну,
як сыну…”

## БАЦЬКА

Кожны розна па свайму бацьку плача:
хто ў кулак, а хто і ніяк.
З асабістага.

Бацька – неба пасол.
Напамінку ён – хуткі.
Як шахцёраў па соль,
Запрашае на хутар.

Забарону дзвярэй
Адмяніў – калі ласка!
Глотку певень дзярэ –
Ясна: сметнік уласны.

Здолеў дух не скрывець:
/ Ад нячысціка збаўце. /
І сявец, і кравец –
Бацька.
Росцікаў бацька.

Хлеб не браны у запас:
Бацька – хіба гаротнік.
Жытка рвала за пас
І скруціла смяротна.

Зблізу голас – чуцён.
Рух здалёк – не хлапечы.
Бацька Росцікаў,
ён
Сам падпальвае печку.

Дровы будуць страляць,
Падуладныя часу.
Сцены моўчкі стаяць,
Як жанкі на прычасці.

У бліжэйшых гаях,
На заходніх заставах
Змоўкла ветру гайня,
Ціш сумёты заслала.

… Жоўты з хвойкі смаляк.
Сук барвовы ад вольхі.
Як апёкі, смыляць
Два ўспаміны пра Волгу.

1916 г.
Ні ў жанчын, ні ў калёс
Не пыталі пра згоду.
Перакручаны лёс
14-ым годам.

Неаглядны, як стэп,
І глыбокі, як гора,
Давялося той церп
Беларусу агораць.

Нечаканым канцом
Абярнулася кара:
Ганак стаўся к р ы л ь ц о м.
Волга.
Межань.
Самара.

Безянчукскі уезд.
Стайня з тузінам коней.
Казкай бачыўся змест:

Запрагай – і на Коўна!

Студзіць студню я н в а р ь,
К о л о т у ш к о й калоціць.
Студня – гэта не  т в а р ь:
С а м о  з н а м о – к о л о д е ц.

А наогул, ч у д н о:
С т а л  к у з н е ч и к  л о ш а д к о й.
Жыць бязглузда з чадом,
Многа чаду, дык ш а т к о.

Шчасце – Бога спазнаць.
Гонар – з галасам гоцаць.
Неадпрэчаны Ъ
Быў царкоўна – прыходскім.

Ля валжанскіх ракіт
І не думаў нібыта:
Мова дужай ракі
Вырве потым з нябыту.

...Не хачу забягаць
Папярод паравоза.
Лёс хістала, як гаць,
Пад гісторыі возам.

1939 г.

Ці надзею, ці страх
Растрывожана выспаў
Напярэдадні страт
3-ці полк з Ваўкавыска.?

Конь. Салдат у сядле.
З небяспечным жалезам.
Прага бою? Але...
Не да бойкі жалнежу.

Так што – штык у пясок!
Дрот у скрутку да часці.
І прэм`ер, як пасол,
У выгнанні дачасным.

Шкуматаецца мір:
На калючцы – вантробы.
“ Руки вверх! Komm zu mir! “ *

Пакт Масквы з Рыбентропам.
**Ідзі да мяне! – нямец., каманд.*

“ Есть на Волге утёс…”
Селігер – гэта астраў.
Там спіхнулі на плёс
Здань нявольнага войска.

Йшчэ ў праектах – Дахаў.
Смерць наглядвае торы.
/ Дзе канцлагер здыхаў,
Там цяпер санаторый./

Для дазнанняў і пыс
Клеці здзеку гатовы.
\- - - - - - - - - - - - - -
Бацька Росціка ў спіс
Трапіў як шэраговы. **

Шанцы жыць? Радавы
Мае ў іх прывілею:
Стрэл лявей галавы
Непазбежна правее.

Дый жыццё – не карат:
Той сябе зберагае.
Волга мае караць?
Волгі шмат з берагамі.

Сілы брак, як назло.
Дух гніе, як сяледчык.
У скуранцы – залом:
Ліха тоіцца ў следчым.

** *Радавы – у польскім войску.*

Не з-пад ласкі Хрыста
Селянін з радаводу.
Карані хараства
Абсякаюць для зводу.

Слабкі падае з ног,
Нібы “ прывід “ / па Марксу /.
Выжыць там дапамог
Дых з гаворкі самарскай.

Не прынёманскі бор
З беларускаю пташкай,
Роспач білася ў борт
Волжскай назве Асташкаў.

Смагне скрышаны рот:
Як сабой авалодаць?
Неспадручна праз дрот
Волзе стаць вайдэлотам.

Нехрыст – “ кум “ для калек.
Скрутна думе ў завоях.
… Баржа “ Сталинец “. Здзек!
Шлях з Галгофы ў… няволю.

* * *

Гром дрымучы з калом
З небасхілу не “выкаў”.
Ёй зрабіць закалот –
Рэшткі спадчыны выкінь?

У запасе зусім
Дзіўных дзён небагата,
Як лістоў у асін,
Ці аблокаў над хатай.

Бацька Росціка
нас
Зноў захмарна вітае.
Той агеньчык не згас –
Затуліўся вятрамі.

Снег у долы зышоў.
Снезе, доўга не баўся.
Вось…Вісіць кажушок,
Шыты Росціку бацькам.

* * *

Не сабой адпачыць,
Як залетась у Татрах,
З асабістых прычын
Храму выдаўся аўтар.

/ Распавёў Расціслаў
У эпоху студэнцтва:

Бацька вестку прыслаў –
Прыме храм набажэнствам./

Не раўнуй, як цыркач,
Сэрца скочыла тройчы:
Мела статус царква,
Намаўляў, абарончы.

… Сад, парослы імхом:
Так утульней, напэўна.
Недзе пеўні пяшком
Заглядаюць у спеўнік.

У кудзерках хлапчук
Не пад ласкай кабеты.
Кінуць вокам хачу
На абраз неапеты.

Перад ім не на скон,
А на шчасце, няйначай,
Клала нізкі паклон
У малітве Мастачка.

## ХРАМ НА ПАДМУРКУ

І Слова было ў Бога…
З Бібліі.

Ведаць мусіш, браток,
У абдымку вясновым:
Боскі творыцца ўрок
Не з-пад стрэльбы вайсковай.

Загадаеш няўзнак
Зажаданыя словы.
Крэўны люд распазнаць,
Мала згрызці аловак.

Сузіральнікам слёз
Стаць – не фокус – панура.
Спрэсаваны, як стос,
Пад слязамі падмурак.

Сцены вынеслі дах
Пад апеку аблокаў.
Не да твару ў гадах
Быць “ слабым на галоўку “.

Фунт
        заважыць тавар –
Пудам мерыўся збыцца.
Раздзімаецца твар
Ад аб`ёмаў амбіцый.

Ёсць уласны статут:
Не хістацца націнай.
Прыклад: сталі на грунт
Расціслаў з Валянцінам.

І ступіць на цвінтар
Ім не хтосьці дазволіў,
Не ў пасадзе спадар –
Веры парастак кволы.

Як вядома, народ
З цемрай вучыцца біцца.
Кінь хусцінку на рот
Брыдкаслову ў бабінцы.

Там, на вечнай сцяне
Людства позіркі доўжыць:
У Гасподняй цане
Мармуровая дошка.

Ёй не бронзы стае:
Сонца ўсходзіць на ганку.
І Мастачка ўстае –
Ад чала – хрысціянка.

/ Каб хлусіць – не дай Бог –
Быў адзін, што пры бозе,
Дык вітаўся з сабой,
Знача – помнікам з бронзы. /

Чутка ўдзячна вятрам,
А травінцы – казюрка.
Нас акрыльвае храм,
Ён стаіць на падмурку.

У палоне дзяцей
Горна тут не бывае.
Хто адсюль узляцеў –
Моц душа набывала.

## ГАРАСКОП ЭПІЛОГУ

Кожнаму дразду жаль па свайму гнязду.

З людскасці.

Час завуць Запрыдух.
Сцежка ў бойку – прамая.
Дзе калоцяцца ўдвух,
Трэці ўзятак прымае.

Пыхі ўспыхла пара.
Век, зжабрачаны ў клеркі,
Мкнецца йшчэ азіраць
Свой шкілет у люстэрку.

Прасціардлы газет
Не чысцей за штандары.
Імі Ігрэк і Зэт
Не вітаюць задарма.

Лічаць пёркі шпікі
На бюстгалтэры Ніцы,
Не раўнуй, як шпакі
У шпакоўні традыцый.

І пад чысты чацвер
Скобліць звяга падлогу,
Каб грахі напавер
Збыць для Госпада Бога.

Сябра мілы! На свет
Не зашорана гляньма:
Як сябе перaслед,
Нам спатрэбіцца... ганьба.

Нам наноў выжываць
З непагібельнай спячкі.
Па-над бацькам – трава,
Цень – на фарбах Мастачкі.

Нам яны – за рэлікт.
З імі мы – самазбаўцы.
След Мастачкі ў раллі.
Голас спраўджаны бацькі.

Росцік – з жыта трубач,
Схоча верад атрэсці.

/ Расцілаве, прабач
Вольнасць аўтару ў тэксце./

Расціслаў закране –
Не наступіць на краску.
Схопіць сам за каўнер
Апантанага красці.

Расціслаў – не заспаў!
Раяць, слухай, планеты:
Не вылазіць з сярпа,
Мець рашучасць за метад.

На сардэчным вітку
На касмічнае ляда
Не сцяжок уваткнуць –
Свет давесці да ладу.

Як шкада, што цяпер
Пад здзічэлаю зоркай
Пад распусту
                    кар`ер
Рыюць духу заморкі.

Немагчыма растаць:
Моц, як дым, не растане.
Прышласць нам скарыстаць,
Нас яна скарыстае.

ЗМЕСТ

**1**

Кузня 3
Залежнасць 3
Пры жыцці 4
Зазвычай 5
Бежанец 5
Па Нёмане 6
Вандроўнік 7
Пра запавет 8
На Айчыне 9
Слонімскі апокрыф 9
Час Таўлая 10
Заходнебеларуская тэма: паэт 11
Беларуская гліна 12
Паводле “ Дзярэчынскага дыярыюша “ 12
Вернік вандроўны 13
Вокліч 14
Ваколіца 14
Спроба балады пра абарваны дрот 15
Бабровая балада 17
Балада саду 17
Наезд да Кромані 18
Побач з Зэльвенскім вадасховішчам 19
Святая вясна 20
Біёлаг 20
Мястэчка 21
Калісьці 22
Непахісна 22
Знакі 23
Скульптура 24
Зімовы гай 24
Бяда 25
Дудка-сага 25
Касцёр у інтэр`еры 26
Гарнізон 26
З недалёкага 27
Шкада 27
Астрапрагноз 28
Роспач 28
Сага аўтастаянкі 29
Няхітры вершык пра павучка і забарону 30
На адыход грому 30
Навідавоку 31
Ваколіца нямецкіх могілак 32
Сіні колер 33
Рэаліст 34

Схема  34
Здалёк  35
Боязна  35
Львіная доля  36
Страта  37
Пошта  37
Яшчэ пра лён  38
Ідылічны сказ пра шапку  38
Азарт  39
Вераб`і мастака Чэкіна  40
Назіранне над сюжэтам  41
У ідэале  42
Званар  42
Неабразлівыя штрышкі  43
Цытата  44
Катарсіс графамана  44
Пасля абмеркавання  45
Накід з хлопчыкам і дзяўчынкай  45
У самотнай прасторы  46
Канец сезону  47
Трыялет ліста  47
Без назвы. Восень  47
Пад Шалямі   48

**2**

Бусел навідавоку  49
Метрыка  49
Рост  50
Рэстаўрацыя  50
Талент  51
Пратакол  51
Раніца  52
Парада  52
На гаспадарцы  52
Архараўцы  53
Памяці ліхтара  53
Пад`ём вады  54
Натарыяльная кантора  54
Абразок  55

**3**

Драматургія ядлоўца  56
Краснасельскія шахты  59
Трактат пра кукурузны квадрат  60
Рыбакова гавэнда  63
Лесавік  66
Заснежаны сшытак /Паэма /  67

Літаратурна-мастацкае выданне

**Голуб** Юры Уладзіміравіч

# Б А Г Р А

Вершы, паэма

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Ігар Жук
Мастак Барыс Фадзін
Вёрстка Міхаіла Гендэльмана
Карэктары Кацярына Іголка, Генадзь Вінярскі

Падпісана да друку 29.09.2006 г. Фармат 70x90 1/32
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. 8,19 арк. Ул.- выд. 5,37 арк.
Наклад 300 паас. Зак. 1237.

ПУП “Кнігазбор”.
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
Тэл/факс (017) 772-19-14.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў друкарні ПУП “Ходр ГА “БелТІЗ”.
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул Вызвалення, 9